„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 3 (47) БЕЛАСТОК, 20 СТУДЗЕНЯ 1957 г. ГОД II

# ТРЭБА ІМ ДАВЯРАЦЬ

Сёння, 20 студзеня 1957 года, грамадскасць нашай краіны на ўсеагульных выбарах пакліча да жыцця найвышэйшы орган дзяржаўнай улады — новы Сейм ПНР.

Сёння адбываюцца першыя выбары ў новым перыядзе жыцця нашай краіны. Першыя выбары пасля незабыўных, бурлівых і пераможных кастрычніцкіх дзён 1956 года калі гэта ўсе патрыятычныя і соцыялістычныя сілы нашага народа згуртаваліся вакол Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'еднанай Рабочай партыі і яе новага кіраўніцтва рашуча выказваючы сваю непарушную волю далейшага соцыялістычнага будаўніцтва краіны, да якога вядзе нас партыя па новай, сваёй уласнай дарозе.

Кожны разумны грамадзянін Народнай Польшчы, не гледзячы на яго нацыянальную прыналежнасць разумее, што выбарчая праграма Фронта Адзінства Народа, якая аснавана на дырэктывах VIII Пленума ЦК ПЗПР, гэта адзіная рэальная праграма развіцця краіны. Няма іншай дарогі да развіцця нашай Айчыны ад той, па якой вядзе нас партыя. Таму хочам каб будучы Сейм быў такім органам, які зможа ажыццяўляць велізарную праграму нашай партыі.

Толькі такі Сейм, да якога ўвайдуць кандыдаты вылучаныя Фронтам Адзінства Народа, прозвішча якіх знайшліся на выбарчых спісах, без розніцы на іх нацыянальную прыналежнасць, гэта найлепшыя найактыўнейшыя ў грамадскім жыцці людзі.

Мы верым, што яны будуць сапраўднымі прадстаўнікамі сваіх выбаршчыкаў, а ў іх ліку і беларускага насельніцтва

Мы верым, што яны ў сваёй дзейнасці ў будучым Сейме будуць бачыць праблему нацыянальных меншасцей, а ў тым ліку і хвалюючыя справы нас беларусаў; будуць за іх змагацца.

Таму патрыятычным абавязкам кожнага беларуса, грамадзяніна Народнай Польшчы, якому блізкая справа пабудовы соцыялізма ў нашай краіне, якому ляжыць на сэрцы ўсебаковае развіццё беларускай культуры, не зважаючы на прапаганду ворагаў, рэакцыянераў усялякай масці, якім соллю ў вачах стаіць аднова жыцця ў краіне запачаткаваная VIII Пленумам ПЗПР — з'яўляецца аддаць свой голас на кандыдатаў Фронта Адзінства Народаў без скрэсліванняў на выбарчым лістку.

Калі з аружжам у руках трэба было ўмацоўваць народную ўладу многія з беларусаў аддалі за яе найдаражэйшае, што ў свеце — сваё жыццё, многія беларусы паклалі вялікія намаганні дзеля ўмацавання народнае ўлады.

Няхай-жа і сёння ўсе беларусы аддадуць свае галасы за народную ўладу, на кандыдатаў Фронта Адзінства Народа.

Няхай кожнаму беларусу, які ў сённяшні дзень пойдзе аддаць свой голас, служаць парадай словы тав. У. Гамулкі: «...не скрэслівайце ніводнага кандыдата Польскай Аб'еднанай Рабочай Партыі. Мы партыя рабочага класа і працоўнага люду горада і вёскі. Мы партыя Народнай Польшчы. Ніхто вярней ад нас не можа служыць працоўным масам і Народнай Польшчы. Для справы працоўных ніхто больш не цярпеў, чым людзі нашай партыі — тысячы і дзесяткі тысяч найвярнейшых яе членаў. Варта і трэба ім давяраць...».



*Зіма ў пасецы.* *Фота — Косакоўскі*

21 студзеня 1924 г. памёр Владзімір Ільіч Ленін

В. Маякоўскі

## ВЛАДЗІМІР ІЛЬІЧ ЛЕНІН

(урывак з паэмы).

Людзі — лодкі
Хош на сушы.

Пражывеш
свой час,
за які
многа ўсялякіх
брудных [illegible]
наліпае
нам
на бакі.

А пасля,
прабіўшы
буру шалёную,
сядзеш пад сонцам,
асвяціўшым высь,
і счышчаеш
водарасляў
бараду зялёную
І мядуз малінавую слізь.

Я
сябе
пад Леніным чышчу,
каб плысці
далей
праз рэволюцый гром
Я баюся
радкоў гэтых тысячы,
як баішся
фальшы хлапчуком.
Галаву
вяночкам разуквецяць.
Непакоюся,
вянка таго святло-б
не закрыла нам
сапраўдны,
чалавечы,
ленінскі,
вялікі
мудры лоб.

Непакоюся,
каб шэсцвіі
і маўзалеі,
пакланенняў каб
заведзены статут
не заліў
апрыкраўшым елеем
ленінскую
прастату.

За яго баюся,
сэрца б'ецца важка,
каб цукерачнай
прыгожасцю
не быў абхлушаны.

Галасуе сэрца —
па мандату абавязка
я пісаць мушу.

(Пераклад П. Броўкі).

# 20 УСЕ НА ВЫБАРЫ ГАЛАСУЕМ НЯ СКРЭСЛІВАЮЧЫ !



# Буйная прамысловасць Польскай Народнай Рэспублікі



Агульны выгляд шлёнскай шахты.
ЦАФ фото — Сэко

Буйная прамысловасць створаная на працягу 12 год, намаганнямі ўсяго народа служыць і будзе служыць забеспячэнню дабрабыту насельніцтва гарадоў і вёсак, умацаванню суверэнітэту Польскай Народнай Рэспублікі і далейшаму развіццю нашай народнай гаспадаркі.

Штогод будзе павялічвацца вытворчасць чыгуну, сталі, хімічных вырабаў, машын, мінеральных угнаенняў і іншых прамысловых вырабаў.

Напрыклад: у 1949 годзе вытворчасць чыгуну складала лік — 1.391.100 тон — то ў 1955 г. 3.112.100 тон, вытворчасць сталі ў 1949 г. складала лік 2.304.000 тон, а ў 1955 г. — 4.426.400 тон.

У 1949 г. колькасць выробленых сельгасмашын ацэньвалася на 48,5 мільёна зл., а ў 1955 — на 194,3 мільёна зл.



Унутры металургічнага завода «Зігмунт» у Лапеўках Шлёнскіх.
На здымку: апрацоўка зубчастых кол на каруселльным станку. Фото — ЦАФ.



Хімічны камбінат у Кендзежыне Фрагмент наіральных вежаў азотнай кіслаты.
ЦАФ Фото — Дамбравецкі.





На заводзе імя Цесельскага ў Познані.
На здымку: фрагмент вагонабудаўнічага цэха. Адсюль выходзяць вагоны прызначаныя на экспарт.
ЦАФ фото — Расяк.



Металургічны завод імя В. І. Леніна.
На здымку: фрагмент аддзела доменных печаў.
Фото — ЦАФ

## Саюз Соцыялістычнай Моладзі і справы беларускай моладзі

VIII Пленум Цэнтральнага Камітэта Польскай Аб'еднанай Рабочай партыі вызваліў магутныя народныя сілы, выклікаў у народзе новы, вялікі энтузіязм да стваральнай працы.

Рашэнні Пленума сярод моладзі сустрэліся з усеагульнай падтрымкай. Моладзь заўсёды ідзе за новым, лепшым.

ЗМП памерла натуральнай, палітычнай смерцю. Што пачаць далей? Моладзь не хоча абыякава глядзець на бег гісторыі. Моладзь хоча ствараць гісторыю. Яна поўнасцю дацэньвае сваю вялікую, рухаючую сілу ў развіцці грамадства.

І вось у маладзёжным руху ўзнікаюць розныя плыні, ствараюцца такія арганізацыі, як: Рэвалюцыйны Саюз Моладзі (РЗМ), Саюз Рабочай Моладзі (ЗМР), Саюз Вясковай Моладзі (ЗМВ).

2 і 3 студзеня ў Варшаве адбылася Краёвая нарада актыву двух найбольшых маладзёжных арганізацый: РЗМ і ЗМР. У выніку гэтай нарады праклямавана стварэнне адной рэвалюцыйнай арганізацыі: Саюза Соцыялістычнай Моладзі.

Саюз Соцыялістычнай Моладзі будзе дзейнічаць, галоўным чынам, у рабочым асяроддзі. У сваіх радах будзе згуртоўваць працоўную моладзь, маладую інтэлігенцыю, студэнтаў — людзей, якія сапраўды хочуць змагацца за такую Бацькаўшчыну ў якой кожны наступны дзень будзе лепшы ад папярэдняга, якія не пабаяцца цяжкасцей і перашкод у дасягненні прадвызначанай мэты.

У праекце праграмы дзейнасці Саюза Соцыялістычнай Моладзі шырока ўлічваецца патрэбы моладзі нацыянальных меншасцей, у тым ліку і беларускай. У тым праекце, між іншым, чытаем: «ЗМС займаючы пазіцыю захоўвання правоў і свабод нацыянальных меншасцей будзе змагацца з усякімі праявамі шавінізма і праследвання, абмяжоўвання і дыскрымінацыі нацыянальных меншасцей. Будзе змагацца супроць усякіх спроб адраджэння нацыяналізм і антысемітызм».

У сакратарыяце ЗМС мы даведаліся, што ЗМС будзе поўнасцю падтрымліваць развіццё народнай творчасці, арганізуючы адначасова адпаведныя выданні на розных мовах (у тым і на беларускай). Гурткі ЗМС, якія ўтворацца ў беларускіх асяроддзях, будуць садзейнічаць усебаковаму развіццю беларускай культуры, вырашаць пякучыя справы беларускай моладзі і г. д. Сходы гурткоў можна будзе праводзіць на беларускай мове.

У склад сакратарыятаў: ваяводскіх, павятовых і гарадскіх камітэтаў ЗМС (дзе патрэбна) увойдуць прадстаўнікі беларускай моладзі, якія будуць спецыяльна цікавіцца дзейнасцю гурткоў у беларускіх асяроддзях, аказваць ім усебаковую дапамогу.

На І Кангрэсе Саюза Соцыялістычнай Моладзі, які адбудзецца ў днях 15—20 лютага г. г., беларускую моладзь будзе рэпрэзентаваць 7 дэлегатаў. Пры тым варта падкрэсліць, што беларуская дэлегацыя будзе самай шматлікай з усіх маладзёжных дэлегацый нацыянальных меншасцей.

* * *

Варта, каб і Саюз Вясковай Моладзі (мо' нават і ў большай ступені) улічыў патрэбы беларускай моладзі і наогул патрэбы моладзі нацыянальных меншасцей.

Хай і тут беларуская моладзь выступіць, хай вылучыць сваіх прадстаўнікоў у органы ЗМВ, якія будуць цвёрда абстайваць за яе справу.

С. Я.

# Кнігі 1957 года

272 назвы кніг выпусціла ў мінулым годзе Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Агульны тыраж палітычнай, мастацкай, дзіцячай, сельскагаспадарчай, навукова - тэхнічнай літаратуры склаў 3.854 тысячы экземпляраў Чытач атрымаў некалькі дзесяткаў новых кніг мастацкай літаратуры. Сярод іх трохтомнае выданне збору твораў Кандрата Крапівы, якое ацэнена друкам, як вялікі ўклад у скарбніцу беларускай літаратуры. «Грозную пушчу» А. Куляшова, апавяданні А. Чарнышэвіча, Я. Скрыгана, І. Шамякіна, А. Кулакоўскага. Усяго ў мінулым годзе выдадзена 47 назваў кніг прозы, паэзіі, крытыкі, драматургіі агульным тыражом 1.366 тыс. экземпляраў.

Падпісана да друку п'еса К. Губарэвіча «На крутым павароце» і нарысы аб калгасным жыцці А. Бялевіча, аб'еднаныя агульнай назвай «Добрыя людзі», рыхтуецца да здачы ў вытворчасць першая карэктура кнігі М. Лупсякова «Паядынак».

Рэдакцыя дзіцячай літаратуры здала ў друк кнігу А. Шашкова «На рачных плёсках» і зборнік беларускіх народных казак «Бацькаў дар» — у апрацоўцы А. Якімовіча, здана ў набор паэму П. Глебкі «У тыя дні».

У 1957 годзе Дзяржаўнае выдавецтва павінна выпусціць 417 назваў кніг, або на 50,3 працэнты больш, чым у 1956 годзе, агульным аб'ёмам 3,013 аўтарскіх аркушаў.

У 1957 годзе будзе значна павялічана выданне мастацкай літаратуры. Да выпуску запланавана 92 назвы кніг мастацкіх твораў. Сярод іх двухтомныя выданні збору твораў П. Броўкі, і А. Куляшова, аднатомнік твораў В. Дуніна - Марцінкевіча, першы том «Сокаў цаліны» Ц. Гартнага і інш.

1957 год будзе больш ураджайным на новыя творы, чым мінулы. Запланаваны да выдання новы твор І. Шамякіна «Крыніцы», «Калі зліваюцца рэкі» — так назваў свой буйны празаічны твор П. Броўка. Тэма твора — дружба беларускага, літоўскага і латышскага народаў.

Многія пісьменнікі здалі ў выдавецтва рукапісы сваіх новых мастацкіх твораў. І. Мележ здаў зборнік апавяданняў, Ул. Карпаў — рукапіс рамана «За годам год». Новы буйны твор «Світанне» напісаў А. Чарнышэвіч. Гэта раман аб першых гадах савецкай улады ў Беларусі.

Некалькі апошніх год працаваў над новым раманам А. Міронаў. Цяпер твор закончаны і здадзены ў выдавецтва. Пісьменнік застаўся верным сваёй тэматыцы; «Здравствуй, море» — кніга аб савецкіх марaках.

У 1936 годзе С. Баранавых скончыў свой раман «Калі ўзыходзіла сонца», які не быў апублікаваны. Зараз рукапіс рамана рыхтуецца да выдання. «Калі ўзыходзіла сонца» — твор аб барацьбе беларускага камсамола ў час белапольскай акупацыі.

У план выдання ўключаны новыя празаічныя творы пісьменнікаў Г. Шчарбатава, Я. Васілёнка, А. Рылько, Р. Сабаленкі і інш.

Упершыню пасля вайны рыхтуецца да выдання зборнік беларускіх прыказак і прымавак. Складальнік Я. Рапановіч сабраў і сістэматызаваў каля пяці тысяч прыказак і прымавак. Кніга выйдзе пад рэдакцыяй А. Якімовіча.

У план выдання па раздзелу паэзіі ўключана 17 кніг. Вядзецца падрыхтоўка да выдання зборнікаў выбраных вершаў паэтаў Ю. Таўбіна, З. Астапенкі, М. Лужаніна, А. Александровіча, А. Звонака, М. Хведаровіча, кніга новых вершаў П. Прыходзькі, паэм А. Зарыцкага і інш.

Літаратуразнаўства і крытыка прадстаўлены ў плане кнігай лепшых крытычных і публіцыстычных артыкулаў, успамінаў і іншых матэрыялаў аб В. Маякоўскім.

На кніжным рынку з'явяцца першыя кнігі маладых пісьменнікаў: Ул. Дадзомава, «Над Нёманам» — раман аб жыцці рабочых Гродзенскага тонкасуконнага камбіната, Б. Бур'яна «Першы снег» — аповесць аб работніках мастацтва, А. Алешкі «Іх першых вітае сонца» — аповесць аб жыцці і баявой вучобе савецкіх лётчыкаў.

З першымі зборнікамі вершаў выступяць перад чытачамі паэты Б. Спрынчан і В. Матэвушаў.

Для самага маленькага чытача і вучнёўскай моладзі ў 1957 годзе выйдзе 59 кніг беларускіх, а таксама сучасных рускіх савецкіх пісьменнікаў агульным тыражом 1.300 тысяч экземпляраў.

Рыхтуюць для дзяцей новыя кнігі пісьменнікі М. Пасляловіч, Т. Хадкевіч, М. Калачынскі, В. Вольскі і іншыя.

Выйдуць таксама кнігі: «Беларусь фабрычная» — нарысы В. Вольскага аб беларускай фаўне, а таксама кніга нарысаў аб гістарычных месцах Беларусі.

У 1957 г. будзе таксама павялічаны выпуск сельскагаспадарчай і навукова - тэхнічнай літаратуры, музычных твораў беларускіх кампазітараў.

## Шахматны матч БССР — Польшча

У пачатку студзеня г. г. у Мінску адбыўся шахматны матч Польшча — БССР.

Перамогу атрымалі шахматысты Беларусі з лікам 13,5: 6,5.



*Цэх лінатыпаў Мінскай друкарні імя Сталіна.*

## Шматтыражная газета ў калгасе „Рассвет”

У новым годзе ў славутным калгасе «Рассвет», Кіраўскага раёна, Магілёўскай вобласці, выйшаў першы нумар шматтыражнай газеты «Па ленінскаму шляху».

Газета апублікавала артыкул старшыні калгаса К. К. Арлоўскага і нарысы перадавікоў калгаснай вытворчасці. У іх расказваецца аб выніках мінулага года, аб планах на будучыню.

У мінулым годзе сельгасарцель «Рассвет» сабрала па 15 цэнтнераў азіміны з гектара на плошчы 2 тысяч гектараў, па 180 цэнтнераў бульбы з гектара. Жывёлаводы калгаса адкармілі 1.800 свіней у сярэднім па 100 кілограмаў кожная, надаілі ад каровы ў сярэднім па 3.845 кілограмаў малака. Грошавы даход за год складае 18 мільёнаў рублёў.

Шматтыражная газета будзе выходзіць два разы ў месяц.

Рэдактарам газеты з'яўляецца калгасны садавод. Тыраж газеты — 1.000 экземпляраў.

## Беларускія вышывальшчыцы ўдзельнічаюць ў міжнародных выстаўках

Прыгожыя вышыўкі робяць майстрыхі ў беларускіх арцелях мастацкага промысла. Пяты год ужо на міжнародных выстаўках і кірмашах экспануюцца іх работы. Вышытыя мужчынскія беларускія кашулі, сукенкі, блузкі, ручнікі, нацыянальнае тканне пераборам карысталіся поспехам у Аўстрыі, Кітаі, Германіі, Аргенціне, Галандыі, Ісландыі, Польшчы, Пакістане, Індыі, Югаславіі, Балгарыі і Турцыі. «Выключна прыгожыя вырабы з вышыўкамі», «Выдатныя ўзоры вышытых сукенак і блузак», «Выдатныя беларускія вышыўкі» — такія водзывы атрымлівалі работы беларускіх майстрых за рубяжом. Многа вышытага адзення, канапных навалочак, парт'ер, абрусаў паказалі Віцебская арцель «8-е сакавіка», Мінская «XX год Кастрычніка», Бабруйская «8-е сакавіка».

(БЕЛТА)

## Раскопкі ў Друцку

У мінулым годзе пачаты вялікія археалагічныя раскопкі гарадзішча Друцк, якое знаходзіцца на тэрыторыі Талачынскага раёна. Экспедыцыю ўзначальвае навуковы супрацоўнік Акадэміі навук Л. В. Аляксееў. У рабоце экспедыцыі прымае ўдзел Віцебскі абласны, краязнаўчы музей.

Друцк успамінаецца ў рускім летапісе яшчэ ў 1092 годзе. Але аб яго ранейшым выглядзе і аб характары эканоміка - культурнага развіцця нічога не вядома.

У канцы XI стагоддзя полацкі князь Усеслаў Чарадзей вёў барацьбу з будучым вялікім кіеўскім князем Уладзімірам Манамахам. У ходзе міжусобнай вайны Манамах падышоў да Друцка, які быў адным з цэнтраў Полацкага княства, і спаліў яго. У пачатку XII стагоддзя ў Друцку асталяваўся адзін са старэйшых сыноў Усеслава — Барыс. Гэты князь вядомы ў гісторыі тым, што заснаваў горад Барысаў (у цяперашняй Мінскай вобласці), і так званымі «барысаўскімі каменнямі» — велізарнымі валунамі. На каменнях былі высечаны надпісы: «Божа, дапамажы рабу свайму Барысу». Прызначэнне «барысаўскіх каменняў» пакуль невядома. Магчыма, што яны з'яўляліся межавымі знакамі. Пасля смерці Барыса Усеславіча Друцк, або па-стараруску Др'юцеск, стаў рэзідэнцыяй старэйшай лініі полацкіх князёў Барковічаў.

Далей у летапісах ідуць урывачныя звесткі аб міжусобіцах, барацьбе з літоўцамі і захопе апошнімі Друцка. Адна з апошніх звестак адносіцца да XIV стагоддзя. У ёй паведамляецца, што Друцкае княства падзялілася на рад самастойных удзелаў. З 1508 года спыняюцца ўсякія летапісныя звесткі аб Друцку. Выправіць недахопы гісторыі старарускага горада, які адыгрываў калісьці значную ролю ў Полацкім княстве, могуць толькі археалагічныя раскопкі.

Пры першым аглядзе Друцкага гарадзішча археолагі ўбачылі вялікія груды ледніковай марэны, акружанай высокім валам. Старажытны Друцк стаяў на беразе ракі Друці і быў штучна ўмацаван насыпнымі валамі і рвамі. У аснове валаў былі ўзведзены драўляныя абарончыя збудаванні, абгарэлыя сляды якіх сям-там выяўляюцца на схілах гарадзішча. Гэта быў замак. Побач з ім размяшчаўся пасад, таксама вельмі ўмацаваны. У замку жылі князь, яго прыбліжаныя, дружына, слугі, і чэлядзь, а ў пасадзе — рамеснікі і ўвесь працоўны люд.

Раскопкі былі пачаты на тэрыторыі замка. Усяго тут ускрыта тэрыторыя, якая складае каля 200 квадратных метраў. Нажаль, яшчэ не ўдалося дайсці да мацерыка, гэта значыць прайсці ўвесь культурны пласт, нават у частцы раскопу.

Асноўную масу знаходак складаюць, як звычайна на гарадзішчах, кераміка (абломкі глінянай пасуды), косці жывёлы, прадметы быту і рамесныя вырабы.

Экспедыцыя знайшла не толькі асобныя рэчы, але і рэшткі старажытных збудаванняў. Так, напрыклад, удалося расчысціць ніжнія вянкі зрубаў некалькіх старадаўніх хат, у якіх жылі дручане. У двух з іх выяўлены руіны печаў, складзеных з камення і абмазаных глінай, так званых «каменак», шырока вядомых па раскопках іншых старарускіх гарадоў.

Комплекс матэрыялаў, здабытых на Друцкім гарадзішчы, датуецца апошняй чвэрцю XII і першай палавінай XIII стагоддзяў, гэта значыць адрэзкам часу ў 70—80 год. Гэтыя рэчы расказваюць нам аб рознастайным, шматбаковым жыцці старажытнага Друцка. Насельніцтва горада, мяркуючы па знаходках, займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рамествамі і гандлем. Стала вядома, якую жывёлу разводзілі дручане, якія культурныя расліны вырошчвалі і г. д. Найбольш пашыранымі рамёствамі былі тут ганчарнае, кавальскае, ткацкае, ліцейна - ювелірнае, цагельнае, косцерэзнае.

Знойдзеная пры раскопках зброя сведчыць не толькі аб розных відах палявання, але і аб войнах, якія часта даводзілася весці жыхарам Друцка, ахоўваючы свае і княжацкае дабро. Аб частых войнах сведчаць і магутныя гарадскія ўмацаванні.

Дзякуючы археалагічным раскопкам вучоныя даведаліся, што жыхары з тэрыторыі Друцкага замка ў сярэдзіне XIII стагоддзя перамясціліся (пакуль па невядомых прычынах) у пасад, а вакол старажытнага ўмацаванага цэнтра пачало развівацца неабароненае паселішча (на яго месцы і размяшчаецца сучасная вёска Друцк).

Работы па вывучэнню Друцка толькі пачаты. Яшчэ трэба правесці раскопкі і ў самім замку, і на пасадзе, і на паселішчы. Трэба таксама даследаваць іншыя замкі друцкіх князёў у Багрынаве, Саколіне і блізкія курганныя могілкі. Гэтыя работы будуць весціся ў будучым.

В. КУЗНЯЦОЎ.
супрацоўнік Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.






*— А на вошта ў газетах пішуць, што запалкі не запальваюцца.*
*(«Шпількі»)*

КАНДРАТ КРАПІВА

## Калі ў краме ёсць нястача

Калі ў краме ёсць нястача,
Дык «усушка» там, няйначай,
Ці «утруска», ці мо' «мышы», —
Так заўсёды ў актах піша.
На «усушку» ўсе зладзеі
Пакладаюць шмат надзеі:
Дзе «усушка» ды «утруска»,
Дык там выпіўка й закуска,
А дзе пуста ад мышэй, —
Падымай, браток, вышэй!
Толькі ўмей складаць ты акты,
Каб пасведчыць тыя факты.
У закупшчыка Антося
Вунь жалеза «увасхлося»
Кіло тысячу ды з гакам,
І Антось па ім не плакаў.
За прылаўкам у Матруны
Шмат «утрэслася» картуны,
Метраў сорак, ці мо' болей,
Адным словам — ёй даволі.
У загадчыцы Антолі
Мышы з'елі скрыню солі,
А пасля яшчэ, заразы,
Бочку выжлукталі газы;
Весялей Антоля ходзіць,
І мышам яно не шкодзіць,
Так двуногія з рукамі
Тыя «мышы» з «пацукамі»!
І псуюць сабе патрошку...
Трэба, трэба на іх «кошку».

## МАШАНЬКА




Ой, хадзіла Машанька
Ой, па садочку;
Эй! закалола ножаньку } 2
На вішнёчку.

Баліць, баліць ножанька,
Ой, ды не больна,
Эй! любіў хлопец дзяўчоначку, } 2
Ды не доўга.

Забіраюць парнішачку
Ой, у салдаты,
Эй! забылася дзяўчоначка } 2
Папытаці.

Забылася дзяўчоначка
Ой, папытаці:
Эй! «Ці мне замуж выхадзіці } 2
Ці гуляці?».

«Гуляй, гуляй, дзяўчоначка,
Ой, як гуляла.
Эй! тапчы, тапчы чаравічкі, } 2
Як таптала.

Не сцялі ты пасцель белу,
Ой, як ты слала,
Эй! не кажы ты хлопцам праўду, } 2
Як казала.

Яны тваю пасцель белу
Ой, параскінуць,
Эй! яны цябе любіць будуць } 2
Ды пакінуць».

## БОТЫ

— Я не думаю аб тых ботах, што гарадскія франты носяць, інакш кажучы аб англійскіх ботах з высокімі заднікамі, падобнымі на тупыя англійскія падбародкі, з напышлівымі халявамі, з цвёрдымі ўкладкамі, якія даюць такі выгляд боту, што, калі ён на назе, то здаецца, што на нейкую жэрдзь нацягнуты.

— Я маю на ўвазе нашыя, мяккія боты. Гэткі бот як абуеш — нага быццам у панчосе. Пры самай шчыкаладцы халява ў гармонік складаецца, у выніку чаго нага можа свабодна згінацца, а на перадах сонца адбіваецца, гэтак блішчаць боты.

І вось, ідзе ў гэткіх ботах хлапец праз вёску, з-пад шапкі кучаравыя валасы паказваюцца, на рамені гармонік закінуты на плечы, а новыя боты скрыпяць аж-но рэха нясецца і неяк прыемна ў сэрцах дзяўчатак адбіваецца. Такога хлопца, кожная дзяўчына абавязкова ўпадабае. — А на вечарынцы як выйдзе ў круг з любым, як тупне абцасам ды так лявоніху затанцуе, што толькі трымайся брат і не прыставай. Уся вёска на вас узіраецца, кожная пара вачэй ацэньвае танцораў, боты чорнай маланкай скачуць, а любы стараецца, каб ніхто не адтанцаваў.

Цяпер разумееце, аб якіх ботах я мару. Ужо другі год нашу свінскія скуры ў ГС, а ботаў пашыць немагу. ГС за адну скуру дае 400 грамаў цвёрдай скуры. На боты трэба кілограм, апрача таго яшчэ патрэбны сцілкі, заднікі, верх, падкладка, — ды што тут гаварыць, трэба з усіх свінней, якія ёсць у вёсцы, здзерці скуры на адну пару ботаў.

Нехта ўстанавіў гэткія недарэчныя нормы і ніякай карысці няма. Сяляне зусім не цікавяцца гэтай справай і мала хто думае здаваць скуры. Самі ходзяць без ботаў, і дзяржава ўсё менш і менш сыравіны атрымоўвае.

Дзеля таго на рынку свініну са скурай купляем.

— Здавалася-б, што ўсё ідзе належным парадкам, што найважнейшай справай для нас з'яўляюцца боты, можна сказаць: — справа ў ботах. Руская пагаворка кажа «дело в шляпе» — сапраўды. У такой «шляпе», што сядзіць на неразумнай галаве, якая стварыла гэтыя нявыгадныя ўмовы для пастаўшчыкаў скур дзяржаве.

Недахоп скуры ў вёсцы даводзіць да таго, што некаторыя людзі ўпотай сваім хатнім спосабам вырабляюць іх. Ізноў кепска.

Чалавеку неабходна трэба 30 дэцыметраў скуры, а ён прымітыўна вырабіць цэлую цялячую скуру. І што-ж атрымоўваецца? — скура малаякасная, а дзяржава ізноў без сыравіны застаецца. Аказваецца, пакуль абуць боты, — то перш за ўсё трэба якога-небудзь начальніка разбуць, каб ён мог сабе на пальцах палічыць: колькі дзяржава траціць па прычыне іх некемлівасці. Боты, аб якіх так моцна мару — я буду мець. На вушкі скуру ўжо атрымаў, і апошняе як-небудзь зробіцца. Кажуць — цыган пакуль купіць каня — то перш за ўсё вуздэчку стараецца.

*Дзядзька Лявонь*

### Растроены доктар

— Грамадзянка, здыміце вопратку, бо мушу вас агледзіць.

— Калі я вельмі саромлюся паказацца ў кашулі — кажа жанчына.

— То здымеце й кашулю.

### Далёка не зойдзе...




*— Ну што-ж малаватая зарплата. Не можна сказаць, што з ёй далёка зойдзеце...*

*— А як-бы вы і ведалі, што недалёка — жонка ўжо сядзіць за дзвярыма...*

### У малачарні

— Чаму на вашым малацэ, дзядзька, ніколі няма смятаны?

— Бо заўсёды наліваю так поўныя банкі, што на смятану няма месца.

## АДГАДАНКА

Прыслаў: Прахорук Уладзімір.




Пачынаючы ад верхняга левага рогу абыйсці рухам шахматнага каня ўсе клеткі фігуры і расшыфраваць развязку, якая складаецца з шасці слоў.

Сярод чытачоў, якія да 5.II г. г. прышлюць правільныя развязкі, будзе разыграна 10 кніжных узнагарод.

## АГАФОН АБРОТКА ЗБІРАЕ ФАЛЬКЛОР




*У адной вёсцы пад Саколкай*
*Пазносілі бабы «колка»*
*І паселі прасці лён.*
*Прышоў да іх Агафон.*

*Бабы яго ўсе пазналі.*
*— Ходзьце, сядзьце — запрашалі*
*А ён: — Дзякуй, ласкава.*
*Я да вас у важнай справе.*

*Есць у нас песні старыя,*
*Засьпявайце дарагія —*
*Папрасіў Абротка цёт,*
*Ды запісвае ў блакнот.*

*А вярнуўшыся дамоў,*
*Нагісаў шчэ пару слоў.*
*У канверт кладзе — шчаслівы,*
*Нову песню шле для «Нівы».*

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

Орган Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Адрас рэдакцыі гор. Беласток, вул. Маніфесту Ліпцовага 25, тэл. 25-89. Умовы падпіскі на 3 месяцы — 7 зл. 80 гр., 6 месяцаў — 15 зл. 60 гр., на год — 31 зл. 20 гр. Падпіску прымаюць усе паштовыя ўстановы, пісьманосцы. Konto NBP I Oddz. Miejski Nr 102-7-161
Выдавецтва РСВ «Праса». Паліграфічнае прадпрыемства ў Беластоку. Т-13